Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай

№ 26 –(66). Вільня, 28 ліпня 1928 году. Год II.

Wilno
„Przegląd Wileński"
ul. Uniwersytecka 9.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Направа польскае констытуцыі.

Як ведама, выбары ў Сойм 4-га сакавіка 1928 г. адбываліся пад лёзунгам направы констытуцыі. Констытуцыя, гэта аснаўны закон, паводле якога і ў згодзе з ім улады кіруюць дзяржаўным жыцьцём. Констытуцыя рэгулюе адносіны, правы і абавязкі паасобнага грамадзяніна да дзяржавы і наадварот. Таму констытуцыя мусіць быць прытарнавана да жыцьця так, каб у жыцьцёвай практыцы яе законы былі спаўняны. Інакш наказы констытуцыі прыходзіцца абходзіць, ламаць, а згэтуль плывуць розныя бяспраўі і гвалты, якіх часта зьяўляліся мы сьведкамі.

Польская констытуцыя з 17 сакавіка 1921 г. ня была прытарнавана да вымогаў жыцьця. Пры ўкладаньні яе польская чорная сотня — эндэцыя, устанаўляючы правы і абавязкі Прэзыдэнта Рэспублікі, старалася яго правы абмежаваць да такой ступені, што Прэзыдэнт Рэспублікі меў быць толькі рэпрэзэнтантам дзяржавы і ня меў ніякіх уплываў на дзяржаўныя справы. Эндэцыя так рабіла дзеля таго, што спадзявалася, што прэзыдэнтам будзе выбраны найпапулярнейшы чалавек у дзяржаве маршалак Пілсудскі, якога эндэкі лічаць за свайго найвялікшага ворага.

Ненавісьць да асобы Пілсудскага папхнула эндэкаў на тое, каб, агранічыўшы правы Прэзыдэнта, а даўшы над'звычайныя правы Сойму, констытуцыя не магла быць— тым, чым яна быць павінна,—асновай дзяржаўнага ладу.

Констытуцыя 17.III. 1921 г. у такім відзе, ў якім яе прыняў Сойм, ня была прытарнавана да штодзённага жыцьця, да штодзённых патрэбаў [illegible]ельніцтва. Большая частка законаў не ўвайшла ў жыцьцё, або проста наказы констытуцыі былі гвалчаны.

Адначасна Сойм пачаў умешвацца ў галіну выканаўчай улады, за якую адказнасьць нясе ўрад на чале з Прэзыдэнтам. Наступіў так званы пэрыяд соймаўладзтва. Сойм ня здолен быў вытварыць патрэбнай да спаўняньня ўлады большасьці, пачаліся таргі і розныя партыйныя спэкуляцыі. Урады былі бясьсільныя, змушаны былі даваць цэлым партыям, або паасобным паслом канцэсіі за цану падтрыманьня ўраду.

Асабліва гэта мела месца за часаў ураду эндэцыі і хітрага Вітоса.

Паслы эндэкі кіравалі адміністрацыяй, школьніцтвам, мянялі чыноўнікаў. Асабліва на нашых землях нарабілі яны шмат благога, панасылалі нам шмат благіх урадоўцаў, вучыцялёў, асаднікаў, якія нашу старонку хацелі спольшчыць, а беларусаў зглуміць.

Найбольш цярпела на такой сыстэме ўлады дзяржава. Жыцьцё дзяржаўнае дэзарганізавалася, іншыя дзяржавы ня мелі даверыя да Польшчы, словам, дзяржава хілілася ў прорву.

І вось калі ўладу ў свае рукі захацеў ізноў захапіць хітры Вітос з эндэкамі, а гэта азначала-б аканчальны ўпадак дзяржавы, тады ў траўні 1926 году выступіў марш.

Пілсудскі, які ня мог сьцярпець тых зладзействаў і надужываў, якія коштам дзяржавы даконваліся.

Перад урадам і соймам стаіць справа направы конституцыі. Направа павінна пайсьці ў тым кірунку, каб, узмоцніўшы адпаведна ўладу Прэзыдэнта Рэспублікі і забясьпечыўшы яму належны ўплыў на дзяржаўныя справы, адначасна была магчымасьць стварэньня сільнага і адказнага ўраду, які сапраўды мог-бы шмат што зрабіць. З другога боку ўлада законадаўчая, якой ёсьць Сойм і Сэнат, не павінна быць у сваіх правох абмежавана. Яна павінна мець над'зор над працай ураду, урад за сваю дзейнасьць мусіць перад Соймам адказваць.

Але Сойм не павінен мець права ўмешвацца ў галіну ўлады выканаўчай, паслы ня могуць мець ніякага ўплыву на тое, што робіць урад, апрача разумеецца тых правоў, якія ім, як прадстаўнікам народу, дае конституцыя.

Не павінны мець месца розныя пратэкцыі і іншыя прыватныя пасольскія камбінацыі.

У такім напрамку зьмены конституцыі павінны пайсьці. Праўда, эндэцыя, а нават і кансэрватыстыя з урадорай партыі лятуцяць аб зьмене конституцыі ў духу рэакцыі. Аднак гэта лятуценьні сьцятай галавы. Прадстаўнікі „адзінкі“ дэмакраты заявілі, што зьмена ня можа быць праведзена ў духу рэакцыі.

Справай направы конституцыі займецца Сойм увосень.

Як можна зьмеркаваць, урадовая партыя знайдзе шлях да паразуменьня з іншымі дэмакратычнымі партыямі ў справе зьмены і направы конституцыі.

Найгалаўнейшым зьяўляецца тое, каб зьмененая конституцыя была прытарнавана да патрэбаў нашага жыцьця так, каб яна сталася сапраўды асновай і рэгулятарам дзяржаўнага жыцьця.

Тады кожны грамадзянін, ці цэлая група, якім конституцыя гарантуе пэўныя правы, будзе магчы гэныя правы асягнуць і ня трэба будзе ўцякаць да гвалтаў.

Бо ўсялякія гвалты, ці яны паходзяць з боку прадстаўнікоў улады, якія конституцыю ламаюць, ці з боку грамадзян, якія, выведзеныя з раўнавагі сыстэматычнымі гвалтамі загарантаваных ім правоў, пачынаюць адказваць на гвалты гвалтамі, усе яны падкопваюць аўторытэт дзяржавы, а дзяржаву самую аслабляюць.

---

## Выратаваньне гэн. Нобіле.

Усім хіба, хто чытае газэты, вядома аб выправе італьянскага гэнэрала Нобіле на паўночны полюс.

Гэн. Нобіле перад сваёй выправай быў на полюсе разам з знамянітым паўночным нарвэскім падарожнікам Амундсэнам. Міма стараньняў і ўласнай хвальбы ўся слава папярэдняе выправы зусім слушна прыпала Амундсэну.

---

## Якуб Колас — пяюн беларускае прыроды.

Якуб Колас стаіць побач з Янкай Купалай у беларускім пісьменстве. Гэта два волаты нашае прыгожае літэратуры, якія дагэтуль пішуць і твораць беларускае культурнае багацьце. Абодва зьяўляюцца прызнанымі праваднікамі беларускага Парнасу. Абодва зьяўляюцца народнымі поэтамі, пісьменьнікамі эўропэйскага роўня, талентамі з „ласкі Божай“ і прыроджанымі мастакамі.

Кастусь Міцкевіч, які піша пад вядомымі псэўдонімамі: Якуб Колас у вершаванай мове і Тарас Гушча ў прозе, радзіўся ў вёсцы Мікалаеўшчыне, каля Сьвержаня, Нясьвіскага пав. Адукацыю атрымаў у Нясьвіскай вучыцельскай сэмінарыі, у якой вучылася шмат ягоных суседзяў. Будучы вучыцелем, Колас не пакідае сувязі з роднай вёскай.

Узгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы нядолі,
Поўныя смутку красы,

цягнулі штолета поэта ў родную вёску, дзе ўсё так блізка, знаёма і дорага ягонай душы. Зьяжджаліся туды і другія вучыцелі, суседзі і таварышы Коласа. З імі абгаварваў Колас незразумелае для яго, як пэдагога і беларуса, палажэньне, калі беларускія дзеці мусілі вучыцца ў чужой мове і забывацца роднае. Відаць у выніку гэтых нарад вышла тое, што Міцкевіч стаў у рады барацьбітаў за беларускую народную школу і прыняў чыннае ўчасьце ў беларускім адраджэнскім руху.

Першы верш Міцкевіча „Беларусам“ быў надрукованы ў 3 № „Нашае Долі“ ў 1906 г. За зьезд беларускіх настаўнікаў у 1906 г. ў Вільні і за арганізаваньне „Беларускага Саюзу Народных Вучыцялёў“, які ў сваю праграму паставіў дамаганьне беларускае народнае школы, Міцкевіч трапляе пад суд, і асуджваецца царскім расейскім судом на 3 гады вастрогу. У вастрозе вырабіўся з Міцкевіча сучасны Колас, адтуль ён прысылаў шмат вершаў у „Нашу Ніву“, пісаў яшчэ больш, і вышаўшы ў 1910 г. з вастрогу пачаў выпускаць у сьвет зборнік сваіх твораў: „Песьні Жальбы“, „Батрак“, „Прапаў Чалавек“, „Родныя Зьявы“, „Апавяданьні“, „Нёмнаў Дар“, „Тоўстае Палена“. Ранены на вайне, у якой служыў афіцэрам, пасля вайны Якуб Колас выпушчае ў сьвет сваю цудоўную поэму, эпопэю сялянскага быту „Новая Зямля“, поэму „Сымон Музыка“

Сам Нобіле падчас выправы з Амундсэнам у хвілінах нябясьпекі вельмі маладушна і палахліва захоўваўся, а пасьля, калі вярнуўся ў Італію, стараўся зрабіць з сябе асілка і ў цень сапхнуць самога Амундсэна. Вялікія амбіцыі не давалі Нобіле, а таксама Мусоліні супакою. Нобіле захацеў сам паляцець на чале выправы на полюс. Быў збудаваны спэцыяльны самалёт „Італія", якім Нобіле і паляцеў. Разам з ім паляцелі вучоныя, каб зрабіць досьледы на полюсе. Між імі былі нарвэгі і чэх. Агулам выправа складалася з 18 чалавек.

Як ведама, „Італія" разьбілася. Нобіле і таварышы змушаны былі астацца сярод лёду на паўночным акіяне.

Адначасна ня ўсе разьбіткі былі ў адным месцы, а разьдзяліліся на тры групы. Разьдзяліліся таму, што ня ўсе на самалёце былі ў адной кабіне, а былі ў некалькіх. Сьпярша адарвалася лодка з Нобіле, пасьля з іншымі.

Нобіле знайшоўся ў найлепшым палажэньні, бо меў з сабой радыё, на якім мог падаваць аб сабе весткі і шмат харчоў.

Усе разьбіткі апынуліся на крыгах лёду, якія плавалі па акіяне, ламаліся. Пагражалі ім мядзьведзі і іншыя марскія зьвяры, а і ежы з сабой шмат ня мелі.

На помач разьбіткам паляцелі лятуны амаль усіх дзяржаваў, якія ляжаць больш на поўнач: Нарвэгія, Швэцыя, Фінляндыя, Расея, Англія, а нават і далёкая Францыя.

Першы паехаў на помач Амундсэн, не зважаючы на асабістыя крыўды, якіх ён дазнаў ад Нобіле. Самога Нобіле ўратаваў швэдзкі лятун Люндборг, які, спусьціўшыся на крыгу, забраў з яе Нобіле. Але калі паляцеў другі раз, каб ратаваць таварышоў Нобіле, самалёт папсаваўся, а лятун астаўся на крызе на месцы Нобіле. Люндборга праз некалькі дзён выратаваў, яго таварыш лятун—швэд.

Адначасна загінуў, ратуючы Нобіле, сам Амундсэн. Найвялікшую помач аказалі разьбіткам расейцы. Расея выслала два ледаколы-параходы і лятуноў, якім удалося знайсьці рэшту таварышоў Нобіле і забраць іх на ледакол „Красін". Асабліва ад'значыўся расейскі лятун Шахноўскі.

Некалькі разьбіткаў памёрла. Асабліва трагічнаю сьмерцю згінуў нарвэскі вучоны Мальмгрэм, якога італьянцы пакінулі, калі ён ужо ня здолеў ісьці, а ён сам сабе выкапаўшы ў сьнягу і лёдзе гроб, зажыва ў ім пахаваўся і ўмёр.

Увесь сьвет абвінавачвае Нобіле ў тым, што, неадпаведна прыгатаваўшы выправу, зарызыкаваў жыцьцём сваіх таварышоў. Што ён ня слухаў рады дасьведчаных падарожнікаў, якія ёдучы з ім радзілі яму з увагі на гураган апусьціцца, а ён казаў ляцець далей, падаючы па радыё весткі, што ўсё добра. Адначасна разышліся жудасныя весткі, што Нобіле і італьянцы проста прагналі і пакінулі самога нарвэскага вучонага Мальмгрэма. Асабліва абурана Нарвэгія, якая страціла двох знамянітых людзей праф. Мальмгрэма і Амундсэна.

Надышлі весткі быццам расейскія лятуны знайшлі Амундсэна. Аставалася-б знайсьці яшчэ толькі францускага лятуна Бальбо.

Опінія цэлага сьвету абурана на Нобіле, што ён непрыгатаваўшы адпаведна выправы з прычыны пустой амбіцыі і самалюбства стаўся прычынай сьмерці сваіх таварышоў.

Шмат у гэтых абвінавачаньнях ёсьць праўды. Так трагічна скончылася выправа на паўночны полюс, пацягнуўшы за сабой ахвяры найлепшых сыноў Нарвэгіі і іншых народаў, якія знайшлі сьмерць у краіне вечных лядоў.

---

і прозай повесьць „У Палескай глушы". Поэт яшчэ не сказаў свайго апошняга слова, ён творыць далей, хоць абставіны палітычнага жыцьця, у якіх жыве Колас, мала спагадаюць яго поэтыцкай творчасьці і ідэолёгіі, бо Якуб Колас жыве ў Менску, пад бальшавікамі, а там, як добра ведама, муза акована загадамі служэньня дыктатуры пролетарыяту, ці лепш пануючае камуністычнае партыі і наш вялікі пясьняр народны, ідэолёг сялянскае душы, мо' найбольш трагічна адчувае моральны ўціск і прыгнечанасьць усялякае вольнае думкі, скованай бальшавіцкім ладам. Яго апошнія творы, пісаныя пры бальшавіках, выяўляюць вялікую грамадзянскую адвагу і поэтыцкую незалежнасьць поэта, бо ён зусім не парушае моднага і неабходнага ў камуністычных умовах жыцьця прынцыпу пролетарызацыі літэратуры і поэзіі. Вялікі талент астаецца незалежным ад казённых вымаганьняў пануючае клікі дыктатараў, хоць няраз спатыкаецца з вынікамі гэтае свае адвагі мець уласную, сьмелую і гордую думку, зроджаную натхненьнем і любоўю свайго роднага краю і шэрых сваіх братоў-сялян беларусаў, чаму ад раньніх сваіх гадоў служыць наш пясьняр.

Усе папярэднікі Якуба Коласа ў беларускай літэратуры, якія апісвалі народнае беларускае жыцьцё, — Багушэвіч, Марцінкевіч і Ядвігін Ш., глядзелі на нашу вёску зьверху, хоць падыходзілі да народу блізка. Іх настроі і думкі — гэта яшчэ не беспасярэдняе выяўленьне настрояў і думак сялянскае масы, якая ў тыя часы выказвалася бадай выключна ў песьні народнай, ў казцы-легендзе, творанай ад вякоў і ўсьцяж абнаўлянай. Якуб Колас першы пасьля Купалы вялікі мастак слова, які сам выйшаў з народнае гушчы. Ён ніколі ад яе не аддзяляўся і даў запраўднае выяўленьне беларускае сялянскае душы, бо места заўсёды было і засталося для Коласа чужым і незразумелым. Праз яго прамовіў сам народ. Гэтая асаблівасьць творчасьці Якуба Коласа, — гэтая беспасярэдня-народная форма яго музы, побач з мастацкай формай, складаець тую вялізарную цэннасьць поэзіі Коласа, якая яго ставіць разам з Купалай на першым месцы ў беларускай літэратуры.

Да Коласа слушна можна аднясьці словы вялікага яго аднафамільца — Адама, які „за мільёны кахаў і цярпеў". Душа Коласа — гэта душа беларускага вяскоўца, непамерна ўзросшая над роўнем вёскі, абняўшая ўсе праявы жыцьця і пераживаньні масы.

Яго сэрца б'ецца ў тахт з біцьцём мільёнаў сэрцаў сялянскіх. Ён глядзіць на сьвет вачыма сваіх братоў сярмяжнікаў, толькі абымае вялізар-

## Пагроза голаду ў Савецкай Расеі.

Паводле вестак, якія наплываюць з Савецкай Расеі, адчуваецца там, што раз сільней недахоп хлеба. У большых местах уведзены ўжо, як падчас вайны, хлебныя картачкі, а перад крамамі з прадуктамі стаяць доўгія „хвасты" (калейкі). Такое палажэньне тлумачыцца тым, што бальшавікі зашмат жыта вывязьлі за граніцы, а таксама ваеннымі прыгатаваньнямі.

Цяпер-жа самі бальшавікі мусяць прывозіць жыта, з заграніцы плацячы за яго даражэй. І так бальшавікі закупілі жыта ў Канадзе, а цяпер вядуць перагаворы з амэрыканцамі. Надзеі на ўраджай у гэтым годзе вельмі сумныя. Пасухі, якія трываюць у гэтым годзе, катастрафальна адбіліся на стане засеваў.

На Украіне, якая была шпіхлерам ня толькі Расеі, але цэлага амаль сьвету, ў гэтым годзе ўраджай вельмі благі, так, што па абліченьні бадай ці хопіць на пракармленьне свайго насельніцтва. Аб пагрозе голаду ўспамінаў афіцыяльна ў сваёй прамове старшыня савету украінскіх камісараў Чубар. Таксама голад пагражае на Крыме. Жыдоўскія каляністыя з Крыму ўцякаюць, бо няма ужо чаго есьць, а адначасна няма ніякіх надзеяў нават на сярэдні ўраджай у гэтым годзе.

Афіцыяльная савецкая прэса, у тым ліку і „Экономическая Жизнь" адкрыта піша аб неўраджаі, які пагражае паўночнай Расеі, Украіне і Каўказу, яыраз найболей пладавітым ваколіцам краю.

Неўраджай, які прадбачыцца, ня ёсьць толькі рэзультатам якіх-небудзь вонкавых прычын, залежных ад пагоды і атмосфэры, а зьяўляецца ён у вялікай меры вынікам савецкае гаспадаркі ў галіне гаспадарчага жыцьця. Высокія падаткі і бязустанная барацьба з замажнейшым сялянствам з г. зв. „серадняками" і „кулакамі" давялі сельскую гаспадарку да катастрофы. Селянін ня хоча засяваць усёй зямлі, бо ведае, што ня будзе магчы выкарыстаць сваіх пладоў, бо іх бальшавікі забяруць. Таму сее толькі столькі, каб мог пражыць сам і купіць сабе неабходныя прадметы. Маса зямлі ляжыць адлогам. Напрыклад, над Волгай, дзе зямля вельмі добрая, чарназем, да вайны сельская гаспадарка была высока пастаўлена. Цяпер у гэтай ваколіцы ляжыць адлогам больш чым 300 тысяч дзесяцін чарназему. Таксама лік інвэнтару, быдла, коняй, сьвіней і г. д. зьменшыўся.

Так сумна прадстаўляецца палажэньне сельскае гаспадаркі ў Расеі, якая цяпер ня можа сваім хлебам выжывіць нават сябе. Да вайны Расея была шпіхлерам цэлай Эўропы.

Усё гэта ёсьць наступствам палітыкі бальшавікоў адносна сялянства, якое прасьледуецца і ў якога адабрана прыватная ініцыятыва.

Як бачым, бальшавікі даводзяць расейскую гаспадарку да руіны.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як трэба вясьці гаспадарку, каб мець даход.

Да нядаўна мала хто цікавіўся дробнымі земляробамі. Пераважная частка зямлі была ў руках вялікіх абшарнікаў і толькі даход з іхніх абшараў меў вагу для народнае гаспадаркі і дзяржавы.

Ужо перад вайною пачалі абшарніцкія землі пераходзіць у рукі сялян, якія куплялі дворную зямлю. Пасьля вайны працэс пераходу дворнае, абшарніцкае зямлі пашырыўся і штогоду прыбаўляецца дробных гаспадарак, памяншаецца абшар дворнае зямлі.

Дзеля гэтага дзяржава і ўсё грамадзянства павінна быць зацікаўлена даходнасьцю гэтых

ныя прасторы, недаступныя кожнаму з іх паасобку. Колас выліў у сваіх творах народны сум, крык жалю загнаных і забітых людзей, ужо ў „Песьнях Жальбы" выказаў ён сум і гора многапакутнае вёскі беларускае, які вее ад нашых ніваў і палеткаў.

Але сум гэты не безнадзейны, у Коласа заўсёды прабіваецца пачуцьцё сілы тых, што церпяць, імкненьне да волі, якую дае жыцьцё на ўлоньні природы, і вера ў тое, што крыўда, гэта рэч дачасная, што

Быць ня можа,
Каб ня грэла лепей сонца,
Наша праўда нам паможа,
Блісьне сьвет і к нам ў ваконца.

Прасьвятленьне тону лірыкі і эпосу Коласа ідзе раўнамерна з поступам адраджэнскае беларускае працы і ўзростам таленту поэта. Ен, як вялікі даглядчык зборнай душы народнай, з усімі яе імкненьнямі і настроямі, адтуль, ад гэтае сынтэзы народнае волі бярэ свае настроі. Колас мацнее душою, яго вера крапчэе ў ясьнейшую будучыню адпаведна да настрою беларускае вёскі.

„Змоўкні ты, сьціхні, песьня пакуты!" кажа поэт і пачынае пяяць „новыя песьні"—песьні волі.

Прырода кшталтуе душу селяніна. Гэтая душа неразрыўна зьвязана з прыродай, з якой ад вякоў зжыўся селянін, яна ў сваіх пачуцьцёх і перажываньнях, поўная пошуму і цёмнае сілы бароў, сьпеву ветру ў полі, яснасьці сонца, цяпла і ласкі, крыніцы ўсяго жывога і творчага. Прырода дае Коласу, пяюну сялянскае душы і ідэолёгіі, творчае натхненьне. Кожныя праява ў жыцьці природы, кожная перамена ў природзэ знаходзіць жывы водклік у коласаўскай поэзіі. Колас першы сярод нашых песьняроў даў поўны абраз—наколькі можа слова выразіць багацьце нязьмернага хараства натуры, абраз гэтае беларускае природы. Ен пясьняр яе. Не сымбаліст не экспрэсыяніст, а толькі пясьняр. Прырода сама гаворыць вуснамі Коласа, які толькі служыць як-бы мэгафонам усіх красак і хараства акружаючае нас роднае стыхіі. Поэма Коласа „Новая Зямля" ня мае з гэтага боку роўнага твору ў нашай літаратуры, а па глыбіні адтварэньня сялянскае ідэолёгіі і адтварэньня природы мала твораў у сусьветнай поэзіі, якія-б можна паставіць на ровень „Нашае Зямлі".

*(Працяг будзе).*

дробных гаспадарак, якія сваімі прадуктамі хутка вылучна адны толькі будуць здаваляць патрэбы ўсяго насельніцтва краю, а такжа будуць вывозіць прадукт сваіх гаспадарак за граніцу, у другія краі.

А перад усім у гэтай даходнасьці дробных гаспадарак зацікаўлены самі дробныя земляробы. Павышаны даход з гаспадаркі—гэта магчымасьць заспакаеньня ўсіх сваіх патрэбаў, гэта адзіны шлях да дабрабыту.

Прыглядаючыся жыцьцю дробных гаспадарак у нас, кожны знаёмы з гаспадаркай у другіх краёх заўважвае малое выкарыстваньне прадукцыйных сілаў, якія могуць паставіць вельмі высока дробную гаспадарку *). Перад усім вельмі слаба выкарыстоўваюцца рабочыя сілы, якімі багаты нашыя гаспадаркі. Можна было-б дапусьціць, што пры існаваньні вялікае сям'і і некалькіх здаровых і працаздольных работнікаў у сялянскай сям'і, гэтая сям'я вельмі старанна будзе абрабляць сваю зямлю. Як агародам, заапякуецца кожным яе кусќом, вынішчыць шкодныя травы і зельле, выбаре каменьні, старанна і ўмела будзе гадаваць жывёлу, разумна і рацыянальна стане абходзіцца з гноем.

Але якраз бачым іншае. Благая і няўмелая ўправа ральлі амаль што ня ўсюды. Пожні ўзгорваюцца позна, а ня зараз пасьля жніваў, гарэцца ральля мелка, а ня глыбока, нядбала абходзіцца гаспадар з гноем, блага апякуецца сваёю жывёлаю,—гэта галоўныя недахваты і балячкі нашага сялянства.

Дзеля гэтага ўсюды гаворыцца і пішацца аб неабходнасьці лепшага гаспадараньня, аб неабходнасьці павялічэньня ўраджайнасьці зямлі і даходу з нашых дробных гаспадарак. Хочучы аднак гэтыя палепшаньні ўвясьці, трэба перад усім пазнаць, як вядзецца гаспадарка дагэтуль, добрыя і благія стораны сучаснага гаспадараньня нашага сялянства. А разам з гэтым трэба ведаць, як можна гаспадарыць, каб мець і лепшы ўраджай і большы даход. Гэтая веда вельмі патрэбная, бо як можна радзіць, каб той ці другі селянін вёў так або йнакш гаспадарку, каб тое, ці другое зьмяніў, калі гэты селянін найчасьцей ня ведае, як ён дагэтуль гаспадарыць. Калі-б спытаць першага лепшага селяніна аб некаторых падрабязных справах з яго працы ў гаспадарцы, як напр., колькі дае яму кожная дзесяціна ўраджаю і чаго, колькі ён вывозіць гною, якім насеньнем засявае сваё поле, як корміць жывёлу, колькі гэты корм каштуе і колькі атрымоўвае даходу з жывёлы, збожжа, за сьвіньні, малако, масла і г. д. і г. д.?

Такія пытаньні асталіся-б без адказу, бо гаспадар гэтага ня мераў, не абліча́ў і рабіў усё на „вока“. Дзеля гэтага, каб парадзіць гаспадару, каб даць добрую і разумную раду, а яшчэ лепш, каб такі гаспадар мог такую параду атрымаць, ён сам перад усім павінен ведаць, што аплачваецца ў яго гаспадарцы, а што не, — чаго больш сеяць—жыта ці аўса, што гадаваць, быдла ці сьвіньні. На гэта ясны адказ дасьць рахунковасьць, калі гаспадар запісвае кошты ўправы ці гадоўлі і атрыманы даход. З такіх запіскаў веданых штогод можа гаспадар пазнаць, што дае найбольш карысьці ў гаспадарцы.

*) Пад назовам „дробная гаспадарка“, разумеем такую, якая абрабляецца сіламі сялянскае сям'і і найбольш 1 чужым работнікам—ад 5 да 15 дзесяцінаў.

Праўда, шмат нашых сялян ня ўмее пісаць, але заўсёды знойдзецца ў хаце асоба, якая пісаць патрапіць. Ужо моладзь наша ўся пісьменная, і яна павінна ўзяцца за разумную даходную гаспадарку. Кожны селянін, ведама, ўмее гаспадарыць — адзін горш, другі лепш, але ўсе нашыя сяляне вельмі адстаюць ад другіх сялян, якія даўно ўжо пачалі вучыцца, якія разумеюць, як і ад чаго расьце расьліна, якія гнаі трэба даваць пад кожнае збожжа і як трэба гадаваць жывёлу, каб яна была скарбам у гаспадарцы.

Кожны гаспадар павінен найлепш знаць сваё поле, якое ён абрабляе ад малых лет. Павінен ведаць, як яно выносіць сушу і дождж, які мае грунт і якія яго асаблівасьці. Рэдка дзе можна спаткаць зусім аднальковыя палеткі, а дзеля гэтага трудна даць параду для кожнага. Але аднак ёсьць рэчы, якія кожны гаспадар павінен ведаць і аб іх тутака пагаворым.

**Управа ральлі** ў многіх гаспадарках вельмі слабая. Асабліва благое ў многіх гараньне, яно вельмі няглыбокае, мелкае. Глыбокае гараньне вымагае больш працы чалавека і каня і дзеля гэтага сяляне, аблягчаючы сабе работу, гаруць мелка, а нават вельмі мелка. Гэта найвялікшы брак і грэх нашае гаспадаркі. Бо нашая землі вымагаюць глыбокае воркі. Ральля, зааранная глыбока, вельмі моцна адчувае і сушу і макрату.

Каб забясьпечыць сябе ад шкоды дзеля сухое ці мокрае, як у гэтым годзе, пагоды, трэба гараць як найглыбей, а нават падгорваць за плугам баразну сошкай, якою баразьніцца бульба. Цяпер возьмем аржышча (пожні). Іх у нас мала хто гарэць зараз пасьля зборкі снапоў. Звычайна пожні выпасаюць быдлам, пасьля авечкамі і толькі тады, цераз некалькі тыдняў гаруць. Гэтым самым кожны селянін, які не адразу зжаўшы жыта, ці ярыну, загорвае пожні, прычыняе сабе вельмі вялікую страту. Ворка пожняў зараз-жа па жніве яшчэ нават пакуль не сабраныя снапы з поля, нішчыць усялякія шкодныя травы і зельле і захоўвае для зямлі вільгаць, патрэбную для ральлі, Таксама трэба гараць на зіму пад бульбу і ярыну.

**Каменьні** зьяўляюцца няшчасьцем нашых палёў. Бываюць такія месцы, дзе камень на камені, а па вярху пліта. Гэта таксама ворагі селяніна. Добры гаспадар павінен старацца сабраць каменьні з поля, бо пад камень і вада не цячэ і з-пад яго збожжа не расьце. Калі каменьняў вельмі многа, трэба капаць глыбокія равы і іх ссыпаць туды, каб не займаць месца на гурбы каменьняў, дзе звычайна разрастаецца зельле.

**Дагляд збожжа.** Дзеля нестараннай воркі ральлі, усялякія шкодныя травы і зельле пануюць і буяць на нашых палёх. А трэба ведаць, што чым больш зельля, тым менш хлеба, бо зельле забірае з зямлі ўвесь корм і збожжа ня мае сілаў узрасьці, як трэба. Лапух, агніха, асот, пырай і іншыя шкоднікі падчас забіваюць усё збожжа. На барцьбу з імі, на нішчэньне гэтага ворага нашых гаспадарак мала зьвяртаецца ўвагі, хоць яны вельмі шкодзяць гаспадаром. Нашыя сяляне ня любяць вырываць зельля, пакуль яно яшчэ маладое, а калі падрасьце, дык трудна ўжо з ім справіцца. А трэба ведаць, што гаспадар мусіць вырваць зельле з усяго збожжа, ня даўшы яму разрасьціся. Толькі такім чынам паможам падняцца збожжу і павялічым ураджай. Здаецца, рабочых рук на беларускай вёсцы ня мала, толь-

кі трэба дбаць аб сваім полі, бо гэта адзіны і пэўны варстат працы, фабрыка селяніна.

Сеяць трэба толькі сеўнікам. Асабліва тыя сяляне павінны купіць сеўнік, якія перайшлі на хутары. А сеўнік можна сабраўшыся купіць на некалькі гаспадарак. Сеючы сеўнікам, выходзіць на засеў менш збожжа і гэта хутка выраўняе кошт сеўніка. а ў нас звычайна сеецца загуста.

**Угнаеньне** поля адбываецца ў нас найчасьцей толькі натуральным гноем, які слушна лічыцца найлепшым сродкам павялічэньня ўраджайнасьці зямлі. Але яго мала ў гаспадарцы і дзеля гэтага трэба старацца прыдбаць гною, каб магчы закідаць ім якнайбольш поля.

Кожны гаспадар можа прыгатаваць г. зв. **кампост**, матар'ялу на яго знойдзецца ня мала ў кожнай гаспадарцы. Кожны гаспадар мае розныя адпадкі: сьмяцьцё з хаты, з панадворкаў, балота, гнілая салома, зельле з поля, людзкія адходы з патрэбнікаў, усё гэта павінен гаспадар зьбіраць у адно месца і з гэтага робіцца кампост. Усю гэтую мешаніну, зложаную ў адну кучу, трэба трымаць у сырасьці, паліваць вадою ў сухую пагоду і цераз гады два ў гаспадарцы прыбудзе вазоў 40 50 лішняга добрага гною.

**Зялёныя гнаі** вельмі добра замяняюць найлепшы натуральны гной і дарагія штучныя гнаі. А як мала нашае сялянства карыстае з іх. Напрыклад, лубін, засеяны пасьля зборкі жыта, калі пожня згарана і засеяна на дргі-ж дзень пасьля жніва. Гэты лубін загараны ўвосень заменіць найлепшы гной пад бульбу ці ярыну.

Заграніцаю ўсюды сяляне абсяваюць поле два разы: вясною збожжам, а ўвосень зялёнымі гнаямі. Гэтак сама вельмі добра сеяць у жыта на вясну сарадэлю, якая дае пашу і гной, загараная позьняй восеняй. Дзе не ўдаецца сарадэля, можна сеяць люцэрну.

## Сельска-гаспадарчая і прамысловая выстаўка ў Вільні.

Ад 18 жніўня да 9 верасьня адбудзецца ў Вільні сельска-гаспадарчая і прамысловая выстаўка ў Вільні, г- зв- Паўночна-Усходнія Таргі.

Вільня перад вайною была цэнтрам вялікага абшару, у які ўваходзілі беларускія землі, якія знаходзяцца цяпер у межах Польшчы, уся сяньняшняя Літва, часьць Беларусі Усходняй і Латвіі. Пасьля вайны гэты абшар паменшыўся, аднак і цяпер Вільня зьяўляецца найважнейшым гандлёвым і гаспадарчым асяродкам для вялікага абшару паўночна-ўсходняе часьці Польшчы, заселенае беларусамі.

Сёлетняя выстаўка мае на мэце паказаць гаспадарчае і культурнае багацьце нашых земляў і заадно пазнаёміць тутэйшае грамадзянства з промыслам іншых частак Польшчы.

Выстаўка адбудзецца на вялікім абшары, у раёне Бэрнардынскага гароду. Цяпер ужо выканчваюцца прыгатаваўчыя работы на пляцы, які будзе заняты пад выстаўку. Галоўны выставачны будынак, вельмі прыгожае канструкцыі, ужо гатовы.

На выстаўку маюць прысылаць свае тавары некаторыя замежныя краі. Для нас беларусаў выстаўка мае асаблівае значэньне дзеля таго, што на ёй будзе з'арганізаваны асобны беларускі аддзел. Там маюць быць выстаўлены вырабы нашага хатняга рамясла і гаспадаркі. Дый уся выстаўка бязумоўна будзе насіць характар беларускі, бо пераважная часьць паказванага на ёй будзе сабрана з нашых земляў.

Вельмі пажадана, каб нашыя сяляне адведалі Вільню падчас гэтае выстаўкі. Многага там можна навучыцца, а паглядзець будзе на што.

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

**У Беларускай Віленскай Гімназіі** на 1928-29 школьны год дырэктарам мае астацца грамадзянін Паўловіч, які кіраваў гімназіяй у леташнім годзе. Т-ва Беларускае Школы прапанавала становішча дырэктара гімназіі б. дырэктару Радаславу Астроўскаму, але гэты не згадзіўся быць ізноў дырэктарам.

**Беларускі Тэатр у Вільні**. Пачаліся стараньні каля зарганізаваньня сталага беларускага тэатру ў вільні з выязною сэкцыяй. Патрэба добрага беларускага тэатру адчуваецца ўжо аддаўна.

Жыцьцё паказала, што паважныя пастаноўкі, як напр. перад апошняя ў гімназіі — цешацца пасьпехам у публікі, якая запаўняе салю. Каб толькі гэта ня было саламяным проектам.

**У Беларускім Студэнскім Саюзе** закончыўся год працы. Студэнты паразьяжджаліся дамоў на адпачынак пасьля году навукі. З будучай восені, трэба спадзявацца, лік сяброў Бел. Студ. Саюзу павялічыцца значна, а праца ў арганізацыі пайдзе яшчэ ляпей.

**Звальненьне з вастрогу кс. В. Гадлеўскага.** Згодна з законам аб амнэстыі 14 ліпня быў звольнены з Макатоўскага вастрогу кс. В. Гадлеўскі, выбітны культурны беларускі дзеяч. Кс. В. Гадлеўскі прасядзеў у турме 16 месяцаў на палажэньні звычайнага вязьня.

**Беларускі Інстытут Культуры і Гаспадаркі** мае адчыніць з пачаткам новага школьнага году некалькі пачатковых школаў і робіць захады каля арганізаваньня беларускага тэатру.

**Беларускі аграном гр. Гузоўскі** нядаўна прыехаў з Чэхаславаччыны, дзе скончыў аграномію ў чэскім унівэрсытэце. Як даведваемся, ў гэтым годзе прыбудзе з Прагі Чэскае на бацькаўшчыну некалькі чалавек з вышэйшай асьветай.

**Адбудова Навагрдчыны.** Міністэрства грамадзкіх работаў асыгнавала на адбудову зьнішчаных вайною гаспадарак у Навагрудзкім ваяводзтве мільён злотых на 1928-29 год. Трэба спадзявацца, што ў хуткім часе людзі забудуцца аб зямлянках, якія яшчэ можна спаткаць на Беларусі.

У часе вайны на абшары Навагрудзкага ваяводзтва зьнішчана было 6899 жылых будынкаў, 10588 будынкаў гаспадарчых і 105 будынкаў грамадзкага характару (школы, цэрквы і г. д.). Да 1 траўня 1928 году адбудована:

1) Пры помачы дзяржаўнае дапамогі 1947 жылых будынкаў, 1129 гаспадарчых і 8 грамадзкіх;

2) Уласнымі сьродкамі: 2750 жылых будынкаў і 4348 гаспадарчых. Дагэтуль не адбудавана 2292 жылых будынкаў, а ў гэтым ліку 672 гаспадаркі зусім ня маюць даху над галавой, 807 сямействаў жыве ў зямлянках, альбо бараках, пабудованых з гнілых матар'ялаў, якія знаходзіліся ў нямецкіх акопах і 723 сямействы ня могуць

скончыць распачатай адбудовы дзеля недахопу грошаў. Таксама не адбудавана 5092 гаспадарскіх будынкаў. З грамадзкіх не адбудавана 97 будынкаў, у гэтым ліку 18 школаў, 12 цэркваў, 1 будынак гміннага ўраду і 2 шпіталі.

**Зьезды Т-ва Беларускае Школы.** Адбыліся павятовыя справаздаўчыя і арганізацыйныя зьезды Т-ва Беларускае Школы: 15 ліпня ў Міры, Стаўпецкага павету, 8 ліпня ў Сьвіслачы, Ваўкавыскага пав. і 12 ліпня ў Гор-дне зьезд сяброў Гарадзенскага пав.

**Будова чугункі Варапаева—Друя.** У канцы ліпня маюць адбыцца таргі на будову першага вучастку чугуначнае лініі на шляху Варапаева—Друя.

# Апошнія навіны.

**Польска-літоўскія** перагаворы, якія меліся ўстанавіць нармальныя суседзкія адносіны паміж гэнымі дзяржавамі, не далі ніякага выніку. Літоўскі прэм'ер Вальдэмарас хацеў-бы дагаварыцца з Польшчай, але толькі пасьля таго, як Польшча аддала-б, ці прызнала Вільню, з вокругам віленскім, местам літоўскім.

Ізноў справа польска-літоўскіх адносінаў будзе разглядацца на паседжаньні Лігі Народаў, якая, трэба спадзявацца, нятолькі парадзіць Літве, але падбае нават, каб зьнясьці гэтыя ненармальныя адносіны паміж суседнімі краямі, якія ў прошлым сваім мелі так многа супольнага.

У зьвязку з перарывам польска-літоўскіх перагавораў, які быў дакананы Літвою, высунуўшай на разгляд граніцы Польшчы, пачалі газэты пісаць аб тым дарадцы, які даў такую параду Літве. Называлі Нямеччыну і СССР. А ў зьвязку з манэўрамі ў Літве, Савецкай Беларусі і Польшчы, пашлі чуткі аб неспакої і магчымай вайне. Але, судзячы па ўсём, гутаркі аб вайне зьяўляюцца зусім беспадстаўнымі. Нямеччына нядаўна зусім выразна дала знаць Літве, што ня думае бараніць яе справы на паседжаньні Лігі Народаў, дзе большасьць крыва глядзіць на Літву за яе пазыцыю ў польска-літоўскім споры. Да таго-ж Нямеччына мае падпісаць ведамы дагавор, які выйшаў ад амэрыканскага міністра замежных справаў Кэльлёга, аб недапушчэньні да новае вайны дзе-колечы, дык трудна Вальдэмарасу спадзявацца ад немцаў помачы ў аружным канфлікце яго з суседняй Польшчай. Польшча таксама падпіша гэты проціваенны проект і будзе зьвязана ім.

Дзеля гэтага палітычны гарызонт над Вільняй даволі чысты і хмараў Вальдэмарас ня стварыць.

Літва нічога ня мела-б проціў, каб Саветы памагалі ў яе споры за Вільню дыплёматычна, але толькі ня больш, бо камунізму баіцца ў сябе ў краі, дзе, як ведама, кіруе краем ваенная дыктатура. Помач Саветаў магла-б быць канцом незалежнага існаваньня Літвы і аб гэтым добра ведаюць Літоўцы.

**С.С.С.Р.** перажывае вялікі крызыс. Разьвіцьцё промыслу стрымалася, бо няма грошай на новыя машыны ды гаспадарка камуністых такая, што яна ўмее нішчыць толькі, а адбудова йдзе вельмі цяжка. Каб знайсьці вінавайцаў крызысу ў фабрычна-заводзкім промысьле, бальшавікі стварылі маскоўскі працэс „спэцаў", інжынераў і 10 чалавек асудзілі на сьмерць за тое, што яны нібы руйнавалі фабрыкі за грошы былых уласьнікаў, якія аплачвалі гэтых інжынераў. Арыштованых разам у зьвязку з гэты працэсам нямецкіх інжынераў маскоўскі суд апраўдаў, бо бальшавікі баяліся страціць сымпатыі Нямеччыны, якая дзеля сваіх палітычных заданьняў яшчэ гаворыць з бальшавікамі.

Саветам грозіць голад, бо ўраджай вельмі слабы. Ужо цяпер Саветы купляюць збожжа заграніцаю. У зьвязку з гэтым мае настаць, як чуваць, ізноў пара г. зв. ваеннага камунізму, калі ўсе палёгкі ў гаспадарчай галіне ізноў будуць адняты, а на ўсё жыцьцё палітычнае і гаспадарчае наложыць руку Г.П.У. (даўная чрэзвычайка). Якраз гэтыя ўмовы ўнутранага жыцьця Саветаў адкідаюць усялякую магчымасьць ваеннае авантуры з іх боку. У СССР. вельмі добра ведаюць, што бальшавікі паўсталі ў выніку вайны, дык вайна новая можа гэтак сама іх згубіць.

Гаворачы аб Радавай Расеі нельга не адзначыць вялікае помачы, аказанае савецкімі маракамі і вучонымі фашыстоўскаму генэралу і яго кампаном, якія хацелі даляцець да паўночнага полюсу. Расейская ратунковая экспэдыцыя на чале з праф. Самуйловічам (па паходжаньні жыдам), атрымала добрыя ратунковыя сродкі—караблі для ламаньня лёду і аэропляны, і вельмі пасьпешна выпаўніла сваю місію. Без расейскае помачы італьянцам грозіла пэўная сьмерць ад холаду і голаду.

**Нямеччына** мае новы ўрад на чале з соцыялістым Мюльлерам. Соцыялістыя атрымалі найбольш галасоў пры выбарах 20 траўня і дзеля гэтага прэзыдэнт Нямеччыны Гіндэнбург даручыў кіраваньне дзяржавай соцыялістаму. Апрача канплера ўва ўрадзе ёсьць яшчэ 4 міністры соцыялістыя. Цікава тое, што монархіст Гіндэнбург даручыў тэку канцлера соцыялістаму. Сталася паводле конституцыі, якая абавязвае і монархістых і соцыялістых у Нямеччыне.

Цяперашні нямецкі канцлер Мюльлер падпісваў у 1919 г. у Вэрсалі дагавор аб згодзе пад Вэрсальскім трактатам.

**Францыя** даканала направы свае валюты (грошай), падобна як гэта было ў Польшчы пры ўвядзеньні злотага. Зрабіў гэта ўрад Пуанкарэ, які трэці год стаіць на чале рады міністраў. Урад гэты цешыцца вялікай папулярнасьцяй і мудра кіруець дзяржавай. А відзім гэта хоць-бы на прыкладзе адносінаў яго да г. зв. эльзацкіх аўтанамістаў, якія, будучы асуджаны, ласкай прэзыдэнта Францыі звольнены з турмы.

**Югаславія** перажывае цяжкія хвілі. Гэтая дзяржава пасьля вайны павялічылася здабытымі ад Аўстрыі землямі, дзе жывуць харваты.

Пасьля злучэньня іх з сэрбамі, ў Югаславіі праводзілася палітыка сільнае цэнтралізацыі і імкненьне зраўняць ува ўсім харватчыну з сэрбамі. Харваты каталікі—сэрбы праваслаўныя. Дзеля гэтага ад самага пачатку ідзе змаганьне харватаў за свае асаблівасьці і за ўплыў на кіраўніцтва дзяржаваю. Сэрбскія нацыяналістыя вельмі сільна нападалі на харватаў у прэсэ і ў парлямэнце, абвінавачваючы іх амаль у дзяржаўнай здрадзе. Дайшло да таго, што ў парлямэнце югаслаўскім адзін з сэрбскіх нацыяналістых забіў харвата і трох раніў. Забойцу арыштавалі, а ўся

харватчына закіпела абурэньнем проціў уціску сэрбаў і зьдзеку над харватамі. Пасьля забойства ўрад падаўся ў адстаўку і дагэтуль яшчэ новага няма, хоць там ня рэспубліка, а монархія. І кароль ня можа даць рады, пагадзіць змагаючыхся сэрбаў і харватаў.

**У Амэрыцы** на прэзыдэнтаў выстаўлены дзьве кандыдатуры: Гувэра, быўшага міністра гандлю і губэрнатара Нью-Ёрку Сьміса. Гувэр кандыдат рэспубліканскае партыі, Сьміса выставілі дэмакраты. Цікава тое, што Сьміс каталік, а дагэтуль яшчэ каталік ня быў прэзыдэнтам вялікае амэрыканскае рэспублікі.

**У Мэксыцы** здарылася забойства новаабранага прэзыдэнта Обрэгона. Нейкі фанатык застрэліў яго, нібы, як пішуць газэты і падаюць тэлеграмы з Мэксыкі, за тое, што ён меўся вясьці палітыку проціў уплываў каталіцкага духавенства.

**У Кітаі** дайшло да поўнага злучэньня ўсяго краю. Новы ўрад прызнала Манджурыя. Пасьля доўгае хатняе вайны цяпер у Кітаі голад, але там гэта не навіна.

# Юрыдычныя парады.

**Падп. Яз. Б-ну.** *Пытаньне* 1): У 1917 годзе я ажаніўся, пасагу ніякага ня ўзяў. Бацькі мае жонкі памёрлі ў Расеі, ў бежанстве. Пасьля іх засталася маемасьць і насьледнікі: дочкі — мая жонка і ейная сястра і брат. Жонка мая памёрла ў 1920 г., пакінуўшы мне дачку. Маемасьцяй бацькоў мае жонкі ўладаюць брат яе і сястра. Ці магу я з гэтае маемасьці што-небудзь атрымаць для дачкі і што і як зрабіць?

*Адказ*: Можаце. Жонцы вашай, а пасьля яе сьмерці — ейнай насьледніцы-дачцэ належыцца 1/7 часьць з маемасьці бацькоў. Калі дабравольна швагер Ваш і швагерка нічога не даюць—падайце іх, *як апякун* над дачкой, у Суд і прасеце прызнаць за ёй права на насьледзтва пасьля яе дзеда і, адабраўшы ад ейных дзядзькі і цёткі 1/7 часьць насьледзтвеннай маемасьці, перадаць ёй, дачцэ ў Вашай асобе, як апякуна.

*Пытаньне II*. Ажаніўся ў 1922 г. За гэты час жонка многа раз кідала мяне: кіне, прыдзе, а праз нейкі час—(год, паўгода) зноў тое самае. Проста няма жыцьця. Думаю ўзяць развод: што і як трэба для гэтага зрабіць?

*Адказ*: Для разводу трэба доказаў: здрады жонкі—(жыве, альбо путаецца з другім ці другімі), альбо сьцверджаньня немагчымасьці супольнага сужыцьця. Тое, што яна часова пакідае Вас, а потым вяртаецца—мала для разводу, бо-ж Вы самі яе прымаеце? Калі дакажаце, што яна здраджае Вас, альбо што яна пакідае Вас не па Вашай віне і гэтым робіць немагчымым супольнае нармальнае сямейнае жыцьцё — падавайце ў кансысторыю просьбу аб разводзе. Калі не, хлапатаць можна толькі аб сэпарацыі.

**Падп. Хоцьку.** *Пытаньне.* Гадоў 40 дзед мой падзяліў свой вучастак зямлі паміж сынам (мой бацька) і дачкой, і ўзяў да яе прымака. У сястры было 7 сыноў. З іх двое памёрлі; адзін пайшоў у прымы; 3 сыны з ёй самой і яе мужам выехалі ў Сыбір, а апошні застаўся на зямлі. Але і ён гадоў таму больш 15 выехаў у Амэрыку, аддаўшы зямлю ў арэнду да 1919 г. У гэтым годзе, той сын сястры, бацькі майго, які быў пайшоўшы ў прымы, сабраў вясковы сход з некалькіх асобаў, якія падпісаліся, што зямля яго маткі належыцца яму, і заўладаў ёю. Ён і па свайму бацьку атрымаў у насьледзтва 1/2 вучастку, мае зямлю па жонцы, як прымак, а цяпер узяў яшчэ і гэтую зямлю. Ці маю я якое права да гэнае зямлі і ці адсуджу яе, або хоць часьць нейкую?

*Адказ*: Зямля гэтая дасталася пры падзеле Вашай цётцы. Значыцца, калі ёсьць хто-небудзь з ейнага патомства і заявіў свае права на маемасьць маткі (ці бабкі), або заўладаў ужо гэтай маемасьцяй — ніхто з сваякоў у баковых лініях права ня мае. Ці гэты насьледнік мае зямлю сваю ці не—ніякага значэньня ня мае. Вы — сваяк баковай лініі. Няма чаго судзіцца, праіграеце; лепш і не пачынайце.

## Цэны прадуктаў у Вільні.

| | | |
|---|---|---|
| Хлеб жытні пытлёвы | 00.65—00.73 | за 1 кілё. |
| „ „ чорны | 00.55 | „ |
| „ „ пшонны | 1.00 | „ |
| Мука пшанічная | 00.85— 1.10 | „ |
| „ жытняя | 00.59—00.62 | „ |
| „ жытняя пытлёвая | 00.75—00.80 | „ |
| Ячменныя крупы | 00 80—00.90 | „ |
| Пансак | 00.70—00.80 | „ |
| Малако | 00.35—00.40 | за 1 літр. |
| Масла нясоленае | 5.00— 6 00 | за 1 кілё. |
| „ соленае | 3.50— 4.00 | „ |
| Сыр | 1.20— 1.60 | „ |
| Яйкі | 00.12—00.15 | за штуку. |
| Сьвежая сланіна | 4.00— 5.00 | за 1 кілё. |
| Бульба | 00.20—00.30 | „ |
| Морква | 00.35— 1.00 | „ |
| Буракі | 00.35—00.50 | „ |
| Цыбуля | 00.40—00.60 | „ |
| Цукер (пясок) | 1.56— 1.60 | „ |
| „ (кавалкі) | 1.80— 1.90 | „ |
| Мыла | 1.50— 2.40 | „ |
| Газа | 00.60 | „ |
| Пшаніца | 11.00—12.00 | за 1 пуд. |
| Жыта | 9.00—10 00 | „ |
| Ячмень | 8.50— 9.00 | „ |
| Авёс | 8.00— 8.50 | „ |
| Каўбаса | 4.00 | за 1 кілё. |
| Мяса валовае | 3.00— 3.20 | „ |
| Цяляціна | 2.00— 2.20 | „ |
| Сьвініна | 3.20— 3.50 | „ |
| Сена | 1.60— 2.20 | „ |



Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3